12 траўня 1999 г. серада

# НАВІНЫ

№51 (582) кошт свабодны




# След белорусских наемников обнаружен в Косово

Екатерина ВЫСОЦКАЯ, Павел ЖУК, Николай ХАЛЕЗИН

На прошлой неделе в информационных агентствах появилось сообщение о захвате Армией освобождения Косово (АОК) белорусских и российских наемников, воевавших на стороне сербов. Ссылка давалась на малоизвестную саудовскую газету «Аш-Шарк Аль-Аусат», которая выходит в Англии. Подобная информация представилась нам настоящей сенсацией. Однако сомнения в правдивости вызывало то, что ни одно авторитетное международное агентство не распространило такую важную новость. Почему? Может быть, «утка»? По этим причинам НАВІНЫ взялись провести собственное журналистское расследование этого факта.

Мы обратились к своему лондонскому корреспонденту с просьбой отыскать газету и журналиста, сообщивших скандальную новость. По прошествии нескольких дней поисков мы получили ответ. Оказалось, что в Лондоне действительно существует газета с таким названием. Это саудовская газета на арабском языке, издающаяся проживающими в Лондоне курдами. Один из руководителей этой газеты Салах Ахмад подтвердил нашему корреспонденту, что такой материал был опубликован в их газете 4 мая этого года. Копию этой статьи НАВІНЫ получили по факсу. Итак, наделавший столько шума материал оказался у нас в руках. Сделав перевод с арабского, мы получили информацию о том, что в действительности произошло в Косово.

Материал написан собственным корреспондентом газеты «Аш-Шарк Аль-Аусат» в Албании и рассказывает о событиях вокруг Балканского кризиса. Мы дословно приводим фрагмент текста, который нас наиболее заинтересовал.

بلغراد: «الشرق الأوسط»

قال جيش تحرير كوسوفو انه مع اقتراب احتمال دخول القوات البرية لحلف شمال الأطلسي (الناتو) الى كوسوفو، بدأت وحدات الجيش تصل الى الاقليم وتتمركز بالقرب من بيتش ديتشان ودجاكوفيتسا الجنوبيتين. واضاف ان عشرات من جنود الجيش اليوغوسلافي فروا من وحداتهم واختبأوا في البيوت المهجورة، لانهم يخافون من تسليم انفسهم الى جيش تحرير كوسوفو. وقال أحد الجنود اليوغوسلاف الذي قرر تسليم نفسه الى جيش تحرير كوسوفو بعد ان تم تدمير وحدته بشكل كامل في مدينة بيتش ان عددا كبيرا من رفاقه يريدون الفرار من هذا الموت المحتوم بعد ان زجتهم قيادة الجيش اليوغوسلافي في حرب لا علاقة لهم بها، لكنهم يخافون انتقام عصابات مجرم الحرب (جيلكو راجنياتوفيتش اركان) الذين هددوا بقتل عائلة كل فار من الجيش اليوغوسلافي.

واضاف ان عددا كبيرا من الجنود الصرب فر الى المدن المهج... حيث اختبأ في بيوتها، والآن هم مستعدون لمواجهة القوات الـ... عنهم مع عصابات اركان، بعد ان فروا بأسلحتهم وهم في حال... يسيطر عليهم الخوف ولا يعرفون سبل النجاة من هذا الوضع ا... جنود الجيش اليوغوسلافي». واشاروا الى ان ضباط الجيش اليو... الواقع العسكرية باستمرار في محاولة رفع معنويات الجنود للتر... فائدة.

وطلب الجندي الصربي الأسير ان يسمح له بالمغادرة الى البانيا لانه يخاف من العودة الى صربيا. فيما ذكرت قيادة جيش انها تعامل الأسرى الصرب حسب قرارات جنيف الخاصة بالأسرى ان عددهم كبير للغاية. لكن «الناتو» يرفض ان يدلوا باي تصريح تصريرهم.

## Газета «Аш-Шарк Аль-Аусат», 4 мая 1999 года

*«Представитель Армии освобождения Косово (АОК) сообщил, что подразделения АОК, расположенные вблизи городов Брдосан и Дьяковица, в результате боевых действий взяли в плен значительное количество сербских солдат.*

*Отмечено также большое количество дезертиров из югославской армии и полицейских формирований. Они прячутся в домах, которые оставили албанцы. Пойманные Освободительной армией Косово сербские дезертиры сообщают, что боевой дух югославской армии низок и многие хотели бы убежать, но боятся с одной стороны албанцев, а с другой стороны сербских властей, и особенно бандита Жилко Ражнетовича по прозвищу Аркан, который пообещал, что будет «разбираться» с семьями дезертиров.*

*Руководство АОК заявило, что имеет большое количество военнопленных, с которыми обходится согласно Женевской конвенции. NATO отказывается принимать этих пленных, что доставляет трудности АОК.*

*Пресс-секретарь Армии освобождения Косово сообщил, что они взяли в плен 20 наемников из России и Беларуси, которые участвовали в боевых действиях. Наемники оказались плененными в результате захвата косовской армией дзота и склада боеприпасов, которые русские и белорусские наемники были оставлены защищать. Эти пленные были переданы представителям сил NATO, расквартированных в Албании».*

**Комментарий газеты читайте на стр.3**

Итак, если верить газете, белорусские наемники действительно воюют в Югославии, были захвачены в плен и переданы натовским частям. Все это сообщил пресс-секретарь Армии освобождения Косово. Информация была тут же передана нашему корреспонденту в штаб-квартире NATO в Брюсселе Александру Силичу. На очередном брифинге в штаб-квартире NATO он смог задать свой вопрос генералу Вальтеру Йертсу. Последовало официальное заявление о том, что на территории натовских подразделений нет плененных российских и белорусских наемников. В то же время он сообщил, что натовцы не поддерживают отношений с Армией освобождения Косово.

**Вопрос:** Генерал, в Беларуси прошла информация о том, что Армия освобождения Косово (АОК ) захватила в плен группу наемников, среди которых были граждане России и Беларуси, и передала их NATO. Подтверждаете ли Вы эту информацию?

**Генерал Вальтер Йертс:** Нет. Мы вообще не имеем никаких отношений с АОК. И никаких наемников нам не передавали.


Генерал Вальтер Йертс (Walter Jertz), немецкие военно-воздушные силы – военный докладчик NATO.

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Севярын збіраецца ў Мінск

Бліжэйшым часам у Мінск прыбудзе Адрыян Севярын, які ўзначальвае спецыяльную рабочую групу па Беларусі, створаную па рашэнні Парламенцкай Асамблеі АБСЕ для падтрымкі дзейнасці місіі АБСЕ ў Мінску. Нагадаем, што апошнім разам спадар Севярын прыязджаў у Мінск у красавіку і тады ж паабяцаў у інтэрв'ю НАВІНАМ прыехаць падчас прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня. А.Севярын лічыць абавязковым знаходзіцца ў Беларусі падчас «важных палітычных падзеяў». У офісе кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ нам адмовіліся даць падрабязную інфармацыю пра планаваны прыезд А.Севярына, спасылаючыся на тое, што праграма візіту яшчэ ўдакладняецца. Як сказаў старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар, прыбыццё афіцыйных дэлегацыяў на прэзідэнцкія выбары па лініі МЗС немагчымае, больш таго, улады робяць усё, каб абмежаваць выдачу ўязных візаў прадстаўнікам міжнародных праваабарончых арганізацыяў і замежным парламентарыям.

***Алесь ДАШЧЫНСКІ***

### Бамбардзіроўкі працягнуцца

Паўночнаатлантычны альянс не спыніць свае бомбавыя ўдары па Югаславіі, заявіла дзяржсакратар ЗША Мадлен Олбрайт у адказ на абяцанне югаслаўскага кіраўніцтва вывесці частку войскаў з Косава. Па яе словах, бамбардзіроўкі скончацца не раней, чым будуць выкананыя ўсе патрабаванні NATO: Мілошавіч мусіць даць Косава аўтаномію, забяспечыць добраахвотнае вяртанне этнічных албанцаў у родныя мясціны, дзе яны будуць ахоўваца міжнароднымі ваеннымі сіламі, а таксама вывесці ўсе сербскія войскі з Косава. Учора ж, пасля паўзы, выкліканай канфузам з бамбёжкай кітайскай амбасады, натаўскія самалёты зноў учынілі налёт на Бялград. І ўчора ж стала вядома, што сербы, нягледзячы на вывад войскаў, зноў праводзяць этнічныя чысткі ў Косава.

***Расціслаў ПЕРМЯКОЎ***

## ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

# Усім «адбой»!

## Аб'яднанне Расіі і Беларусі пераносіцца на наступны год

Віка ТУРАВА

Масква недвухсэнсоўна дала зразумець беларускаму боку, што дамова аб аб'яднанні двух краінаў можа быць падпісаная толькі пасля правядзення прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Прычым хуткасць падпісання будзе непасрэдна залежаць ад вынікаў расійскай прэзідэнцкай кампаніі. Пра гэта з сумам у голасе паведаміў у эфіры нацыянальнага тэлебачання Міхаіл Сазонаў, памочнік беларускага прэзідэнта.

Упершыню беларусы адкрыта прызналіся, што ў апошнія некалькі гадоў іх, мякка кажучы, вадзілі за нос. Крэмль па два разы на год абяцаў жаніцца: падпісваліся дэкларацыі, прызначаліся тэрміны, выпівалася шампанскае, нават білі фужэры. Аднак потым высвятлялася, што шлюбны кантракт яшчэ не гатовы, і вяселле ў чарговы раз адкладвалася.

Цяпер расстаўленыя ўсе кропкі над «і». Маскве не падабаюцца захады Мінска наконт стварэння саюзных органаў улады. Не падабаюцца да такой ступені, што Барыс Ельцын адхіліў прапанову стаць прэзідэнтам «радыкальна створанай» саюзнай беларуска-расійскай дзяржавы. Пра гэта А.Лукашэнка паведаміў журналістам у Валгаградзе, калі прадстаўнікі прэсы папракалі дэталёва растлумачыць сутнасць беларускіх ініцыятываў. Па словах А.Лукашэнкі, падчас сустрэчы з прэзідэнтам Расіі 28 красавіка ў Крамлі за зачыненымі дзвярыма ён прапанаваў Б.Ельцыну ў выпадку прыняцця гэтага варыянту стаць прэзідэнтам Саюза. Што да самога кіраўніка беларускай дзяржавы, дык ён сціпла прэтэндуе на пасаду віцэ-прэзідэнта. Такі склад кіраўніцтва Саюза, паводле задумы прэзідэнта Беларусі, існаваў бы да правядзення ўсеагульных прамых выбараў кіраўніка саюзнай дзяржавы і ягонага намесніка.

Аляксандр Лукашэнка не ўлічыў толькі той факт, што па цалкам зразумелых прычынах Барыс Ельцын мае алергію на віцэ-прэзідэнтаў, якія чамусьці ўвесь час пнуліся заняць ягонае месца.

Прэзідэнт Беларусі не збіраецца спыняць намаганні выйсці на палітычную прастору Расіі шляхам аб'яднання. Пра гэта сведчаць ягоныя шматлікія і частыя паездкі па расійскіх рэгіёнах. Лукашэнка карыстаецца падтрымкай рэгіянальных лідэраў і разлічвае на іх дапамогу і на іх уплыў на палітычную сітуацыю ў Расіі. Калі губернатары падтрымаюць беларускія ініцыятывы, Маскве цяжка будзе і ў далейшым адкручвацца ад Мінска адгаворкамі і абяцанкамі паглыбляць інтэграцыйныя працэсы. Больш таго, Лукашэнка мае намер у бліжэйшы час наведаць расійскія аўтаноміі. Маскоўскія палітыкі раней неаднаразова заяўлялі, што затармажанасць аб'ядна́ўчых працэсаў тлумачыцца адмоўным стаўленнем да іх з боку прэзідэнтаў Татарстана і Інгушэціі. Калі беларускаму прэзідэнту ўдасца дамовіцца з Казанню і Назранню, Масква не знойдзе довадаў у адказ. Хіба што шчыра прызнаецца ў сваім нежаданні аб'ядноўвацца — і сваіх бедаў хапае. ■

## НАДВОР'Е




**13 траўня** па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Вецер пераменных напрамкаў, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы ад 0 да 5 градусаў ніжэй нуля.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**420 000**

## СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Поўны стабільняк

Вось і пабудаваў Лукашэнка сваю мадэль шчаслівага грамадства. Ён сам і яго прыяцелі вельмі шчаслівыя. Купаюцца ў раскошы, спажываюць далікатэсы, п'юць уволю, гуляюць у гульні на свежым паветры, дурэюць, лятаюць на самалётах-верталётах тудысюды па сваіх справах і па сябруках, катаюцца на браніраваных «мерседэсах», ходзяць у лазню, паднімаюць тонус. Прэзідэнт нават жонку не прывозіць у Дразды, каб не перашкаджала. Нельга спыніцца. Вечны кайф. Засакрэцілі ўсё горш за камуністаў, нават драздоўскае меню, каб, крый Божа, электарат не даведаўся пра іх шчаслівае жыццё.

Гэта іх рай, мэта жыцця, апошні шанец пажыць як хочацца. Каб усе наўкол зайздросцілі. І ўвесь час душыць жаба: мала. Кожны дзень адно — мала, мала, мала. Хочацца забяспечыць не толькі сябе, братоў, сватоў, дзяцей, але і ўнукаў, праўнукаў, прапраўнукаў, прапрапра... Хочацца грошай, больш чым у Жучкі вошай. Грошы — гэта шчасце, улада — гэта грошы. На такой філасофіі трымаецца ўсё шчасце барацьбіта з карупцыяй і яго прыспешнікаў.

Дзе мільёны долараў за прададзеную зброю? А за незаконныя аперацыі «Торгэкспо»? Хто кантралюе сродкі з кішэннага прэзідэнцкага бюджэту? Колькі народных грошай туды ляснула? Такіх пытанняў сотні, і адказы на іх будуць не хутка, але мы іх усё адно атрымаем. Куды яно дзенецца? Берыя хаваў, і то ўсплыло, а на Лукашэнку будзе процьма даносчыкаў, аматараў залажыць «хадзяіна», бо, кажуць, не дзеліцца са сваімі, шкадуе для сярэдняга і ніжэйшага звенняў. А сквапнасць нікому яшчэ на карысць не ішла.

Каб толькі ведалі бедныя чыноўнікі, што клююць дробныя падачкі з рук нашых бедных грамадзянаў, колькі круціцца грошай на вышэйшым узроўні, колькі маюць аматары вузкага і вельмі цеснага кола найбольш прыбліжаных да «цела» (куды яны ніколі не трапяць)! Каб толькі ведалі ціхія сенатары з палатаў, колькі яны маглі б мець за конна, без дазволу прэзідэнта, проста за добрую работу на карысць сваёй краіны! Каб толькі ведалі няшчасныя грамадзяне, як іх абдурыў Лукашэнка сваёй палымянай прагай да тэлевізійнай «справядлівасці»!

Вось і пабачылі мы вялізнае, небывалае шчасце нашага прэзідэнта, якое ён абяцаў сваім выбаршчыкам. Яму добра, астатнім — вельмі дрэнна. Па-навуковаму гэта называецца стабілізацыя рэжыму, калі ўсім усё ясна перад тым, як скончыцца. Лясну, як бурбалка...

## РЭПАРТАЖ У НУМАР

**На 11 траўня у цэлым па рэспубліцы прагаласавала 1.722.042 чалавек, што складае 22,82% грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах.**

# Былая наменклатура выбірае

## Карэспандэнт НАВІНАЎ назіраў, як ідуць выбары прэзідэнта ў прэстыжным доме

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Мінск, Вайсковы завулак, 10. У гэтым сяміпавярховым доме побач з ін'язам атрымлівала кватэры бээсэсэраўская наменклатура. І зараз тут жывуць Кісялёвы, Сакаловы, Таразевічы ды яшчэ многія людзі з прозвішчамі, якія выклікаюць трапяткое пачуццё ў свядомага савецкага чалавека.

Дзверы ў пад'езд адчыняе кансьержка. «Да Таразевіча, на выбары? Так, яны ўжо там», — саступае мне дарогу жанчына і з усмешкай дадае, відаць, у бок былога старшыні прэзідыума ВС: «Усё ніяк не супакоіцца».

Падымаюся на чацвёрты паверх. Сябры выбарчай камісіі Людміла С. і Уладзімір М. як раз выходзяць з кватэры Георгія Таразевіча. Гаспадар толькі што апусціў бюлетэнь у скрыню. Ён у добрым настроі і ахвотна дзеліцца прагнозам. «Прыкладна палова дома прагаласуе», — кажа былы старшыня Вярхоўнага Савета.

Пачынаецца абход кватэраў. Уладзімір трымае скрыню, Людміла націскае кнопку званка.

— Зараз ідзе галасаванне за прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Прапануем вам прыняць у ім удзел. Вось бюлетэні. У іх дзве кандыдатуры — Чыгір і Пазьняк. Вы можаце выбраць любую альбо закрэсліць абедзве...

— Выбары? Калі ласка, заходзьце...

Альбо:

— Якія выбары? А-а, вы канстытуцыю чыталі?.. — дзверы з шумам зачыняюцца.

У якой дакладна кватэры зараз адмовіліся галасаваць, я не ведаю. Ды мяне і не цікавіць. Вось Кісялёвы не хавалі, што з ахвотай будуць галасаваць, а як паставіліся да выбараў у кватэрах Сакаловых — іхняя справа.

Вынік: з 21 кватэры прынялі ўдзел у галасаванні жыхары 7. Трэцяя частка ўвогуле не адзывалася, там нікога не было. Астатнія адмовіліся. Па назіраннях Уладзіміра большасць тых, хто галасаваў, аддавалі перавагу Міхаілу Чыгіру. Звычайна, галасуючы за яго, людзі не хаваюцца. Адна выбаршчыца гэтак жа адкрыта прагаласавала за Зянона Пазьняка. І яшчэ адзін важны вынік. Трыццаць хвілінаў ішло галасаванне ў доме нумар 10 па Вайсковым завулку. За гэты час з пастарунку, што знаходзіцца побач з паркам Горкага, сто разоў магла прыехаць машына з міліцыянтамі. Аднак не прыехала. Альбо ніхто з былых наменклатуршчыкаў не пазваніў «куды трэба», альбо міліцыянты павялі сябе па прынцыпе: «хай галасуюць, яшчэ невядома, чым усё скончыцца». ■

# Грамадзянская камісія шукае Захаранку

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

У панядзелак у Мінску адбылося экстраннае паседжанне Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў у сувязі з раптоўным знікненнем экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі. Каардынацыйная рада ўтварыла грамадскую камісію па расследаванні акалічнасцяў гэтага здарэння на чале з былым супрацоўнікам Мінскай гарадской пракуратуры Алегам Волчыкам.

Камісія звяртаецца да грамадзянаў, якія бачылі Юрыя Захаранку 7 траўня прыкладна ў 22 гадзіны ў раёне вуліцаў Магілёўскай, Прыгожай і Жукоўскага і што-небудзь ведаюць пра яго далейшы лёс, патэлефанаваць па тэл. 263-04-82.

Па словах члена рады, лідэра сацыял-дэмакратаў Міколы Статкевіча, апазіцыянеры не давяраюць афіцыйнаму росшуку Захаранкі, які пачала міліцыя. На думку Статкевіча, улады маюць самае непасрэднае дачыненне да знікнення экс-міністра. Таму апазіцыя і вырашыла стварыць грамадскую камісію, у якую ўвайшлі вопытныя спецыялісты — юрысты і былыя аператыўнікі. У прадстаўнікоў камісіі, па словах Статкевіча, амаль няма сумненняў, што знікненне Захаранкі мае палітычныя прычыны. ■

# Расійскія дальнабойшчыкі, пакрыўджаныя Лукашэнкам, будуць пікетаваць у Маскве

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Учора расійскія дальнабойшчыкі, якія пацярпелі ад прэзідэнцкага дэкрэта, што забараняе вываз многіх відаў прадуктаў за межы Беларусі, наведалі консульства сваёй краіны ў Беларусі.

Шуміха, узнятая ў СМІ пасля падачы дальнабойшчыкамі скаргі ў Вярхоўны суд Беларусі, вымусіла супрацоўнікаў консульства ў гэты раз уважліва выслухаць прадстаўнікоў пакрыўджаных кіроўцаў, пасля чаго яны паабяцалі шчыра ва ўсім разабрацца. Ва ўсякім разе прадстаўнікі дальнабойшчыкаў былі задаволеныя вынікам візіту і паведамілі журналістам, што цяпер ад'язджаюць дадому ў Стаўрапольскі край. Праўда, перад гэтым у іх ёсць намер яшчэ раз звярнуцца на сябе ўвагу, наладзіўшы шматлюдны пікет каля будынка расійскага МЗС у Маскве.

## Рынкі зноў працуюць

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

11 траўня пачалі працаваць рэчавыя рынкі Гродна. Акцыя пратэсту прадпрымальнікаў працягвалася 10 дзён. Спыніць яе за патрабавала частка ўдзельнікаў акцыі — 50-100 чалавек. Па словах намесніка старшыні рэчавага рынку «Паўднёвы» А.Васільева, было вырашана выйсці на працу, каб пазбегнуць расколу. Рэч у тым, што ўлады паабяцалі пайсці насустрач прадпрымальнікам. Прыпынілі праверку сертыфікатаў якасці тавараў, абяцаюць, што будзе пераглежаная стаўка фіксаванага падатку. Аднак калі гэтыя і іншыя абяцанні не будуць выкананыя, не выключана, што прадпрымальнікі паўтораць акцыю. Іхні кіраўнік В.Леванеўскі павінен выйсці з-пад арышту 18 траўня. Яго пасадзілі на 13 сутак за тое, што ён нібыта арганізаваў на ганку гарвыканкама мітынг прадпрымальнікаў, якія прыйшлі са сваімі праблемамі да «айцоў» горада. ■

## САТЫРЫКОН




## ЦЫТАТА НУМАРА

*8 мая. Валгаград. Плошча загінуўшых герояў. Беларускага прэзідэнта тут чакалі даўно.*

*Алёна ЛАДУЦЬКА*
*Беларускае тэлебачанне, АТН, 8 траўня 1999г.*

## Затрыманыя памежнікі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Агенты літоўскай службы спецыяльных расследаванняў затрымалі на Мядзінкскім памежным пункце двух літоўскіх памежнікаў па падазрэнні ў атрыманні хабару ў памеры 600 долараў ЗША за пропуск праз мяжу крадзенага аўтамабіля.

Каб затрымаць злачынцаў, давялося разыграць сітуацыю дачы хабару, падчас якой пацвердзілася ранейшая інфармацыя аб несумленнасці гэтых памежнікаў, якія за грошы давалі дазвол на беспераШкодны праезд крадзеных аўто на тэрыторыю Беларусі. ■

## Бяздомныя лібералы

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

У офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі, магчыма, хутка размесціцца міліцыя.

Аб'яднаная грамадзянская партыя мусіла пакінуць сваю сталічную штаб-кватэру. Прычына: будынак па вул. Судмаліса (у якім ужо даўно няма жылых кватэраў, а толькі офісы, у тым ліку і АГП) падлягае капітальнаму рамонту. Лідэр беларускіх лібералаў Станіслаў Багданкевіч лічыць, што «наяўнасць у доме нашай штаб-кватэры падштурхнула да пачатку рамонту». Паводле інфармацыі, якая маецца ў старшыні АГП, пасля капрамонту будынак аддадуць органам унутраных справаў.

Пакуль што абсталяванне і аргтэхніку параспіхвалі па прыватных кватэрах і леціпчах. У хуткім часе АГП знойдзе прытулак у офісе сваёй маладзёжнай арганізацыі «Грамадзянскі форум». «Зараз мы шукаем спонсараў, якія б дапамаглі нам вырашыць пытанне з набыццём памяшкання для штаб-кватэры», — паведаміў С.Багданкевіч. ■

## Усё карацейшае «плячо» да суседзяў

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

На лёгкіх матацыклах на невялікія адлегласці па некалькі разоў у дзень сноўдаюць праз памежны пераход «Варшаўскі мост» брэсцкія «спіртавозы», зарабляючы на збыце перакупшчыкам дазволеных нормаў гарэлкі і цыгарэт 2-3 долары навару.

Некалі і прыбытковы «чаўночны» бізнес на легкавіках перажывае відавочны спад: калі раней памежнікі прапускалі 3,5 тысячы адзінак аўтатранспарту за змену, дык цяпер на выезд праз Брэст накіроўваюцца ўсяго да некалькіх соцен легкавых машын.

«Кароткім плячом» называюць брэсцкія мытнікі цяперашнія паездкі «чаўнакоў» у адзін бок, паколькі прадпрымальнікі з Польшчы страцілі інтарэс да рынку на Усходзе. І калі яшчэ летась мытня «Заходні Буг» пералічвала 2,5 трыльёна рублёў, то план на сёлета ў новых цэнах (прыблізна 7 трыльёнаў) ніяк не выконваецца, калі злосна не паштрафаваць нават за дробныя парушэнні і без таго драконаўскіх нормаў грашовага падатку на тавары ў валютным пераразліку. ■

## Прыватную друкарню наведала міліцыя

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Прадстаўнікам міліцыі і КДБ Беларусі дадзены загад актыўна шукаць і канфіскоўваць любыя друкаваныя матэрыялы аб выбарах прэзідэнта краіны. Каб знайсці «крамолу», робяць спецыяльныя рэйды па офісах апазіцыі. Прычым часам міліцыя паводзіць сябе вельмі дзіўна.

У панядзелак больш за дзесятак міліцыянтаў у форме і цывільным завіталі ў памяшканне прыватнай друкарні «Палімарк». Ахоўнікі парадку паведамілі супрацоўнікам друкарні, што атрымалі інфармацыю, быццам на іхнім прадпрыемстве закладзеная бомба. Але, па словах друкароў, міліцыянтаў больш цікавіў не пошук выбуховага прыстасавання, а друкаваныя матэрыялы, што знаходзіліся ў офісе «Палімарка». Прыкладна дзве гадзіны працягваўся гэты несанкцыяваны вобыск. Ніякай бомбы, натуральна, знойдзена не было. ■

## У польскія паркі — без візаў

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Для беларускіх і польскіх турыстаў, якія жадаюць адпачыць у нацыянальных парках «Белавежская пушча» (Беларусь) і «Бяла вежа» (Польшча), неўзабаве будзе адкрыты новы турыстычны маршрут, які прадугледжвае бязвізавае перасячэнне мяжы.

Такое рашэнне было прынятае на нарадзе прадстаўнікоў пагранічных ведамстваў, мытных камітэтаў і міністэрстваў унутраных справаў дзвюх краінаў. Накіраванае яно на пашырэнне трансгранічнага супрацоўніцтва.

Турысты, якія купілі тур на наведванне нацыянальных паркаў Беларусі, змогуць убачыць шмат цікавага, у тым ліку музей прыроды, жывёлаў, якія жывуць у пушчы, а таксама сумнавядомыя Віскулі. ■

СПЕЦСЛУЖБЫ

## «Непрыгожыя» метады выкарыстоўваюць спецслужбы пад час вярбоўкі беларусаў у свае шэрагі

# Хочаш вучыцца — зрабіся стукачом

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Супрацоўнікі беларускіх спецслужбаў глядзяць у перспектыву і з гэтай мэтай старанна апрацоўваюць палітычна актыўную моладзь. Яшчэ не забылася гісторыя вярбоўкі КДБэшнікамі Паўла Карназыцкага, былога старшыні «Маладой Грамады», якая ўсплыла на паверхню толькі дзякуючы эміграцыі Паўла. Наступнай ахвярай камітэтчыкі абралі намесніка старшыні «Маладога Фронту» Андрэя Пятрова, які вучыцца на чацвёртым курсе фізічнага факультэта БДПУ.

Прыкладна ў пачатку красавіка Пятрова да сябе на размову нечакана выклікаў прарэктар. Пры з'яўленні Андрэя ён выйшаў з пакоя, пакінуўшы студэнта сам-насам з чалавекам, які прадставіўся як Анрэй Блынь, супрацоўнік КДБ, адказны за педуніверсітэт у галіне вывучэння студэнтаў. Праўда, на прадмет чаго ён вывучае студэнтаў, засталося незразумелым. Мэтаю выклiку, па словах супрацоўніка камітэта, з'яўлялася азнаямляльная гутарка, аб якой ён папрасіў нікому не гаварыць. І Андрэй бы не звярнуў увагі на тую пяціхвілінную гутарку, калі б не наступствы, што пачаліся пазней.

З цягам часу хлопца сталі выклікаць ледзь не праз дзень, знаходзіць яго ў самых нечаканых месцах. Тэлефанавалі нават дадому. Цяпер КДБіст ужо не быў такім лагодным, а патрабаваў ад маладога палітыка даваць яму ўсю вядомую інфармацыю аб РНЕ, якое, маўляў, з'яўляецца ворагам як «Маладога Фронту», так і КДБ.

Зразумеўшы, што калі ён пачне даваць хаця б нейкую інфармацыю спецслужбам, яго чакае бязрадасны лёс і слава стукача, Пятроў катэгарычна адмовіўся ад далейшых сустрэчаў і папрасіў увогуле яму больш не тэлефанаваць. Тым не менш наступная сустрэча ўсё ж не прымусіла сябе чакаць. На гэты раз яна адбылася ў кабінеце дэкана, дзе Пятрову ўжо прапаноўваліся немалыя грошы за сувязь з органамі. У чарговы раз атрымаўшы адмову, КДБіст проста паабяцаў Андрэю, што, маўляў, напярэдадне сесія, якую Пятроў можа не здаць, і тады яго адлічаць з БДПУ.

Андрэй не бачыць выйсця з гэтай сітуацыі. У адчаі хлопец распавёў усю гісторыю карэспандэнту НАВІНАЎ: «Хачу, каб урэшце мяне пакінулі ў спакоі. Хачу вучыцца без страху за будучую сесію». ■



# След белорусских наемников в Косово

КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Вопрос остается пока открытым: если у NATO нет отношений с Армией освобождения Косово, то это еще не исключает факта захвата наемников. С другой стороны, учитывая желание США помириться с Россией, оскорбленной бомбардировками Югославии, вполне естественно было бы желание NATO скрыть такой неприятный момент, как плененные наемники. Скрыть, хоть бы до той поры, пока Североатлантический альянс не определится, кому же он «подарит» роль основного миротворца в Балканском кризисе.

Есть и еще один аспект данной проблемы. Газета «Аш-Шарк Аль-Аусат», сообщившая этот факт, по мнению некоторых ее читателей, не всегда дает до конца проверенную информацию. Нельзя исключать, что неправду сказала именно газета, а не представители NATO. Но в случае, если эта информация является плодом воображения корреспондента в Албании, то какой смысл был в упоминании белорусов? Ведь жители Великобритании арабского происхождения, которые являются читателями газеты, навряд ли знают о существовании такой страны, как Беларусь.

Версия о том, что спецслужбы стран NATO осуществили «вброс» информации, дискредитирующей союзников Югославии, через подставную газету, тоже пока не подтверждается. Ведь при подобной схеме сенсационную информацию должны были подхватить и растиражировать крупнейшие мировые информационные агентства. Этого же не произошло.

Скорее всего – нет дыма без огня. На начальном этапе военных действий, проводимых NATO на территории Югославии, в России и Беларуси плодились инициативы по переброске добровольцев в очаг конфликта. И какая-то часть волонтеров должна была добраться до расположений сербских войск. Легко допустить, что часть волонтеров, прибывших из России и Беларуси, и попала в плен АОК.

Наша газета продолжит расследование этой темы. Мы надеемся, что сможем в итоге найти ответ на вопрос: воюют ли на стороне сербской армии наши соотечественники.

Если кто-то из читателей нашей газеты владеет информацией о гражданах Беларуси, которые самостоятельно направились поддержать с оружием в руках ту или иную из конфликтующих сторон, просим обратиться в редакцию. НАВІНЫ намерены заняться судьбой этих людей, так как государственные структуры отрицают факт участия белорусских граждан в военном конфликте на Балканах. ■

(!) НАВІНЫ предпринимают попытки связаться с пресс-секретарем АОК, чтобы подтвердить или опровергнуть через него факт пленения белорусов. Обо всех подробностях мы обязательно сообщим нашим читателям.

# Карбункулы законности

**Александр ДУБРАВИН**

**Роясь на досуге в кипе непрочитанных газет, наткнулся в «СН» за 16 апреля с.г. на удивительное письмо под названием «Честь имеем ответить», вдохновенно написанное в редком ныне жанре отповеди плотной группой граждан: полковником (род войск не указан) Рожневым и офицерами МВД Беларуси Урбаном, Носковым, Некрасовым и Багуном.**

Произведение до краев наполнено горькой иронией, могучей патетикой и глубоким чувством ответственности перед вышестоящими товарищами. Своим смертельно заточенным острием отповедь направлена против вражеских происков бывшего министра внутренних дел Юрия Захаренко, который в одном из интервью упрекнул офицерский корпус МО и МВД в отсутствии... благородства(!?).Так и сказал, между прочим, довольно опрометчиво, вслух. Показал свое нутро. Дескать, «няма таго, што раньш было». Не уважают вас, «гаспада ахвіцэра», ныне в широких народных массах. Нет у вас, в некотором роде, подлинного благородства и других столь необходимых вам драгоценных внутренних качеств!

Сказал, и получил разящий ответ прямо в глаз! «Удивительно слышать все это, — саркастически замечают авторы письма во главе с полковником, — из уст не простого смертного, а бывшего руководителя.., любившего с гордостью... пройтись по Минску в генеральском кожаном плаще». Действительно, удивительно. Если ходил в кожаном плаще, то и не упрекай. Сиди и вспоминай, какое у тебя было счастье. Как гордо ты ходил по Минску, а все благородные офицеры вокруг трепетали и наполнялись ощущением личного оргазма при одном твоем приближении. Ага, кусай теперь локти! И не думай, что мы завидуем твоему плащу. Ныне плащей море. Считай, есть у каждого. Слава Богу, рынок на «Динамо» пока еще коптит небо. «Мы видим другое, — мгновенно ставит точный диагноз коллектив авторов, — когда вы говорите о нищенской пенсии, о службе ради похлебки, то складывается впечатление, что вас захватил примитивный материализм во всех формах: от идейного до бытового, а это есть смертельный враг армии и ее боевой готовности». То есть, господин Захаренко, грубо говоря, в некоторых товарищей змеей проникло подозрение, что ты стал чужаком, подлым наймитом, полностью переродился в потребителя и мещанина. Будто не знаешь, что при нынешней системе повальной государственной боеготовности офицеру ни к чему зарплата, пенсия и жирная похлебка. Нужен замполит, сто грамм и свежие кальсоны.

Читаем дальше. Те строки, где дрожь пробирает по-настоящему. По-хорошему ядовито, по-чекистски безжалостно, на высокой дрожащей ноте полковник Рожнев и его коллеги по мировоззрению бьют наповал своей проницательностью бывшего министра: «Каковы ваши истинные цели? Кого вы хотите собрать под свои «знамена» и зачем?». Вот он, апогейный вопрос отповеди! Вот он, стержень непримиримых разногласий! Два мира – две системы! На кого работаешь? Главное, зачем тебе это нужно, что замыслил? На что покушаешься, гад? На святое? Хочешь под названием «союз офицеров» сколотить гнусную банду? Насиловать и грабить? Вывозить в Россию масло? Брать и не возвращать кредиты? А в результате — бросить под ноги вражьим мордам наш зелено-красный флаг? Так не бывать же этому!

Далее следует апофеоз подлинного офицерского чувства, рвущегося узкие рамки письма: «Не нужно нас собирать в «союз», **мы уже давно объединены корпоративным духом**, на котором и вырастают **бриллианты благородства**!» Я такого нигде не читал. Правду говорю. Каков слог, каково чувство! Словам тесно, мыслям просторно. Далеко не каждый офицер такие слова знает, а грамотно пишут их вообще единицы. «Корпоративный дух» офицеров МО и МВД! Без пояснений не догонишь. Открываем родной каждому благородному офицеру «Советский энциклопедический словарь» и читаем: «Корпоративное государство – одна из форм авторитарного политического режима, характерная для фашистского гос-ва. Идеологи к.г. рассматривают гос-во как совокупность публичных служб (корпораций), выполняющих определенные социальные функции».

Что касаемо благородства, то врагам, по мысли авторов отповеди, не удастся подкузьмить наших офицеров. Нам не нужно буржуазное, лицемерное благородство, у нас есть свое, глубокое, истинное, славянское, социалистически-рыночное. Настоящие бриллианты благородства. И не только они, между прочим. Есть рубины порядочности. Сапфиры человечности. Изумруды интеллигентности. Жемчуга правдивости. Аметисты честности. Карбункулы законности.

Только у врагов народа при словах «офицер милиции» в голове возникает образ помятого, давно не стриженого краснолицего дядьки в брюках с пузырями на коленях и отвисшей мотней, с небольшим портативным пузом, оттопыренным задом, торчащим сквозь прорези мышиного мундира, и кобурой, набитой ватой. Только не наши люди обижаются, когда их избивают резиновыми палками на разрешенных митингах откормленные узколобые паренькы, когда хватают на улицах и волокут в мрачные прокуренные опорные пункты неизвестные люди в грубых кожаных куртках, пошитых из голенищ офицерских сапог. Когда их везут в суды, где наши честные милиционеры дают честным судьям ложные свидетельские показания. Когда их бросают в мрачные средневековые застенки, где заплечных дел мастера мучают и пытают людей. Когда на все это спокойно взирают все законники страны, во главе с главпрокурором и министром юстиции. Только враги могут не видеть при этом настоящего благородства наших офицеров милиции, объединенных настоящим корпоративным духом. О благородстве офицеров армии и говорить нечего, особенно после того, как все, что можно, разворовали прапорщики.

Подумайте на досуге над этим, офицер Захаренко! ■



# У хворую дзяржаву клічуць лячыцца

## Аляксандр Лукашэнка праявіў міласэрнасць да камуніста Буракявічуса

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

Нядаўна Аляксандр Лукашэнка прапанаваў прэзідэнту Літвы Валдасу Адамкусу вярнуць у Беларусь літоўскага камуніста М.Буракявічуса. З нашай краіны той быў дэпартаваны на радзіму 5 гадоў таму, і з той пары адбывае пакаранне за кратамі. Абгрунтаванне прапановы — у тым, што Буракявічус хворы на сэрца, і Лукашэнка хоча, каб Мінск стаў месцам лячэння зняволенага камуніста.



Не будзем тут засяроджвацца на стаўленні да камунізму і камуністаў увогуле і да Буракявічуса ў прыватнасці, на меры яго замешанасці ў вядомых падзеях, калі яшчэ за Гарбачовым у Вільню былі ўведзеныя танкі і загінулі людзі (меркаванні наконт гэтага маюцца розныя — хто лічыць Буракявічуса сапраўдным злачынцам, хто — невінаватым пакутнікам, а хто і наогул ледзь не героем). Незалежна ад усяго гэтага, можна было б палічыць лукашэнкаву прапанову проста за праяву гуманізму да хворага чалавека. Але тады ўзнікае пытанне: чаму б дзеля прыкладу не праявіць спачатку падобны гуманізм ва ўласнай краіне?

Вось, скажам, сядзіць у турме дэпутат Андрэй Клімаў, які таксама хворы на сэрца. А ў іншага вядомага вязня, Васіля Старавойтава, — наогул цэлы букет хваробаў. Больш за тое — медыцынская экспертыза наўпрост паказала, што яго нельга трымаць пад вартай. Не зважаючы на гэта, хворага старога з турмы не выпускаюць. І тут яшчэ трэба ўлічыць, што ні Клімаў, ні Старавойтаў па законе не асуджаныя. Аднак пра іх лячэнне за мяжой няма і гаворкі — нават усяго толькі меру стрымання ім, па медыцынскіх паказчыках, не змяняюць.

Такім чынам, узнікаюць некаторыя сумненні ў шчырасці гуманных намераў Лукашэнкі: ягоны трапяткі клопат пра здароўе замежных вязняў у супастаўленні з тым, як ён абыходзіцца з вязнямі айчыннымі, выглядае хутчэй цынізмам, чым гуманізмам. А казаць праўду, дык ніякіх сумненняў на самой справе няма. Не выпадае ўсур'ёз гаварыць пра шчырасць чалавека, для якога, як даўно заўважана, хлусня ёсць спосабам палітычнага выжывання; свой жа «гуманізм» Лукашэнка таксама дэманструе пастаянна, асабліва ў адносінах да палітычных апанентаў. Ясна, што прапанова падлячыць Буракявічуса ў Беларусі — не больш як палітычная акцыя, паказная гатоўнасць узяць пад крылышка прыхільніка Савецкага Саюза і камуністычнай сістэмы.

У 70-х гадах савецкае кіраўніцтва ажыццявіла бартэрную здзелку з рэжымам А.Пінаэта, абмяняўшы дысідэнта Уладзіміра Букоўскага на лідэра чылійскіх камуністаў Луіса Карвалана. Узнікла б цікавая сітуацыя, калі б Літва скарыстала гэты вопыт і прапанавала ў адказ свае медыцынскія паслугі: у Мінску лечаць Буракявічуса, у Вільні — Старавойтава або Клімава. Тады Лукашэнка апынуўся б перад дылемаю: з аднаго боку, яго вядомая помслівасць, з прычыны якой яму было б цяжка развітацца з якім-небудзь са згаданых вязняў; з другога боку, магчымасць вызваліць Буракявічуса і зарабіць на гэтым новыя палітычныя ачкі сярод фанаў Савецкага Саюза на расійскіх прасторах. Так, амаль што гамлетаўскае пытанне...

Яшчэ навеяліся нейкія аддаленыя асацыяцыі. Помніцца. раней апазіцыя настойліва патрабавала, каб быў правераны стан псіхічнага здароўя А.Лукашэнкі, прычым зрабіць гэта павінна незалежная псіхіятрычная экспертыза. Лукашэнка гэтым патрабаваннем чамусьці пагрэбаваў. Словам, размову пра тое, як наш «праваслаўны атэіст» прапанаваў некаму лячыцца, хачу скончыць цытатаю з Бібліі: «Врачу, исцелися сам». ■

# Турэмныя норавы

## Парушаецца права дзяцей дэпутата Клімава на сустрэчы з бацькам

**Валерый ШЧУКІН, праваабаронца**

Ужо паўтара года знаходзіцца ў турме дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэй Клімаў. За гэты час толькі некалькі разоў Андрэю Клімаву ўлады далі дазвол сустрэцца з дзецьмі. За 15 месяцаў разлукі дачку Лену пусцілі да таты ў турму тры разы, а Стаса — двойчы. Прычым апошняе спатканне дзяцей з арыштаваным бацькам стала магчымым толькі пасля асабістага ўмяшальніцтва ў красавіку 1999 года кіраўніка групы АБСЕ па Беларусі Ханса-Георга Віка.

Так на Беларусі выконваецца Канвенцыя ААН аб правах дзіцяці, якая абвяшчае неад'емнае права чалавека на падтрыманне рэгулярных асабістых адносінаў з абодвума бацькамі (артыкул 9). Для беларускіх следчых, мяркуючы па стаўленні да дзяцей Клімава, паняцце «рэгулярна» азначае адзін-два разы ў год. ■



Дзеці палітвязня **Андрэя Клімава** 4-гадовая **Лена** і 9-гадовы **Стас**

РАЗМОВА

# Палітычная цана эканамічнага супрацоўніцтва

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**Хайнц ТЫМЕРМАН, навуковы дырэктар федэральнага інстытута ўсходненавуковых і міжнародных даследаванняў у Кёльне вядомы ў нашай краіне як аўтар даследавання «Беларусь: дыктатура ў сэрцы Еўропы?» Спадар Тымерман піша, што ў выніку падзеяў пасля рэферэндуму 1996 года закладзеныя асновы «для персанальнай дыктатуры». Наш карэспандэнт пацікавіўся ў спадара Тымермана яго поглядам на сённяшнюю сітуацыю ў нашай краіне, тым больш, што ён з'яўляецца членам Гістарычнай камісіі Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі.**

**— Спадар Тымерман, якую пазіцыю займае ўрад Вашай краіны ў адносінах да прэзідэнцкіх выбараў, якія стартавалі ў нашай краіне? Што Вы думаеце наконт гэтага працэсу?**

— Еўрапейскі саюз і краіны, якія ў яго ўваходзяць, сярод іх таксама і Германія, афіцыйна не выказаліся па гэтым пытанні — яны спадзяюцца, што галасаванне праходзіць спакойна і без гвалту. і, магчыма, яно адначасова дасць штуршок для прымальнага вырашэння канстытуцыйнага канфлікту. На мой погляд, арганізаваныя апазіцыяй выбары даюць важны палітычны сігнал. Яны зноў звяртаюць увагу свету: у сваёй сённяшняй форме рэжым Лукашэнкі-1996 вынікае з парушэння Канстытуцыі, у той час як апазіцыя ўвасабляе непарушнасць канстытуцыйнага парадку ад 1994 года. Аднак патрэбна шукаць прагматычнага вырашэння канфлікту паміж праціўнікамі — канфрантацыйнае абвастрэнне не адпавядае ні беларускім, ні еўрапейскім інтарэсам.

**— Спадар Тымерман, як, на Ваш погляд, складваюцца цяпер адносіны паміж Германіяй і Еўрапейскім саюзам, з аднаго боку, і рэжымам прэзідэнта Лукашэнкі — з другога?**

— Германія і наогул Еўрасаюз не зацікаўленыя ў ізаляцыі Беларусі, наадварот, яны жадаюць падключэння вашай краіны да агульнаеўрапейскага працэсу кааперацыі і інтэграцыі. Перадумовы для гэтага павінны быць створаныя ў самой Беларусі. Цэнтральнае значэнне мае тут фактычнае — а не толькі на паперы — захаванне асноўных еўрапейскіх каштоўнасцяў і прынцыпаў, ажыццяўляць якія беларускі ўрад абавязаўся, падпісаўшы адпаведныя дакументы ў рамках АБСЕ. Да гэтага абавязвае і падпісанае ў 1995 годзе, але не ратыфікаванае пагадненне аб партнёрстве з Еўрасаюзам. Нават статут саюза з Расіяй 1997 года прадугледжвае захаванне палітычнай дэмакратыі, адкрытага плюралістычнага грамадства, падзел уладаў, свабоду прэсы, захаванне правоў чалавека. Рэжым Лукашэнкі ў значнай ступені ізаляваў сябе сам, грэбуючы гэтымі прынцыпамі цывілізаванага еўрапейскага супольніцтва. У залежнасці ад развіцця дэмакратычнага працэсу, Еўрасаюз і ягоныя краіны-ўдзельніцы будуць гатовыя перагледзець сваю пазіцыю ў адносінах да Беларусі, каб падтрымаць выхад Беларусі з самаізаляцыі на Захадзе і распачаць заснаванае на дамоўленасцях партнёрства.

Дэмакратызацыя прадугледжвае, у прыватнасці, правядзенне свабодных і сумленных выбараў, бесперашкоднае развіццё апазіцыі і шанцаў дэмакратычнай змены ўлады, доступ усіх палітычных плыняў да сродкаў масавай інфармацыі, ажыццяўленне грамадзянскіх правоў чалавека. Падрыхтоўка да надыходзячых парламенцкіх выбараў можа стаць тут добрым тэстам. На гэтым фоне арышт Старавойтава і Чыгіра з'яўляецца скандальным прыкладам палітычнай юстыцыі, што не знаходзіць разумення ў краінах Еўрасаюза. Контрпрадуктыўна выглядае таксама блакіраванне дэмакратычных праграмаў па лініі TACIS, а таксама перашкоды пры рэгістрацыі палітычных партыяў, саюзаў і грамадскіх арганізацыяў. Зваротныя тэндэнцыі ў гэтай сферы былі б прыкметай гатоўнасці беларускага ўрада да дыялогу і кампрамісу.

**— Як вядома, 20 ліпеня заканчваюцца прэзідэнцкія паўнамоцтвы спадара Лукашэнкі. Як будуць развівацца адносіны краінаў Еўрасаюза і, у прыватнасці, Германіі з існуючым рэжымам?**

— На маю думку, і пасля гэтай даты краіны Еўрапейскага саюза будуць прытрымлівацца двухкаляёвай палітыкі. З аднаго боку, яны працягнуць падтрымку апазіцыі. Дэпутаты ў Страсбургскім Еўрапейскім парламенце і ў нямецкім парламенце праяўляюць моцную салідарнасць са сваімі калегамі з Вярхоўнага Савета, які нелегітымным чынам распушчаны ў 1996 годзе. З другога боку, Еўрасаюз пасля 20 ліпеня будзе падтрымліваць каналы для дыялогу з выканаўчай уладай. У супрацоўніцтве з кансультатыўна-наглядальнай групай АБСЕ ў Мінску Еўрасаюз будзе імкнуцца прывесці да дыялогу і «круглага стала» абодва бакі канстытуцыйнага канфлікту, каб паступова замацаваць у Беларусі вышэйназваныя дэмакратычныя нормы. Еўрасаюз і Германія, яго састаўная частка, адпаведна адрэагуюць на гэты пазітыўны працэс. Для пачатку было б магчымым адмяніць блакіраванне кантактаў для высокапастаўленых функцыянераў рэжыму, аднавіць праграму тэхнічнай дапамогі TACIS і нарэшце ўвесці ў сілу перспектыўную дамову аб партнёрстве і кааперацыі паміж Беларуссю і ЕС.

З прычыны аўтарытарна-рэпрэсіўнага характару рэжыму стратэгія ЕС мае на мэце, праз пасрэдніцтва паміж канфліктуючымі бакамі, садзейнічаць вяртанню Беларусі ў сям'ю еўрапейскіх дэмакратыяў. Аднак значныя шанцы, мне здаецца, заключаюцца ў тым, што Еўрасаюз прывабны ў якасці патэнцыяльнага партнёра для шырокіх гандлёвых сувязяў і масіўных інвестыцыяў для эканамічна затарможанай Беларусі. Стварэнне і абгрунтаванне такога партнёрства мае, аднак, палітычны кошт: паступовае дэмакратычнае пераўтварэнне краіны на падставе агульнапрызнаных еўрапейскіх каштоўнасцяў і дэмакратычных прынцыпаў. ■

# Не трэба тэлеграмаў, спадар прэзідэнт

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Адміністрацыя прэзідэнта Літвы Валдаса Адамкуса абвергла сцвярджэнне Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што той накіраваў тэлеграму літоўскаму прэзідэнту. Нядаўна беларускі прэзідэнт заявіў, што ў сваёй тэлеграме Валдасу Адамкусу ён папрасіў выпусціць у Беларусь для лячэння былога старшыню Камуністычнай партыі Літвы Міколаса Буракявічуса.**

Лукашэнка сцвярджаў, што ён напісаў наступнае: «Мне паведамілі пра пагаршэнне стану здароўя Міколаса Буракявічуса, які быў незаконна вывезены з Беларусі ў Літву пяць гадоў таму. Мы ведаем, што яму патрэбная тэрміновая хірургічная аперацыя на сэрцы, якую можна ажыццявіць у Мінску. Гэта магло б павысіць шанцы выратаваць чалавека, за чый лёс Беларусь адчувае поўную маральную адказнасць». Лукашэнка таксама паабяцаў вярнуць Буракявічуса літоўскаму боку, калі той паправіцца (калі паправіцца).

Офіс Валдаса АДАМКУСА: **«Мы не атрымоўвалі такой тэлеграмы ад Лукашэнкі. Не было ад яго і ліста. Дарэчы, звычайна кіраўнікі дзяржаваў дасылаюць адзін аднаму дыпламатычную карэспандэнцыю, а не адбіваюць тэлеграмы».**

У адміністрацыі літоўскага прэзідэнта паведамілі таксама, што калі яны ўсё ж атрымаюць пасланне ад Лукашэнкі, то, хутчэй за ўсё, адказ будзе наступным: літоўскае заканадаўства забараняе ўмяшальніцтва ў дзеянні судовых органаў, якія займаюцца справай Буракявічуса. Да таго ж, у выпадку неабходнасці Буракявічус можа атрымаць усю неабходную медыцынскую дапамогу ў самой Літве.

Дарэчы, начальнік медыцынскай часткі вільнюскай турмы «Лукішкі» Часловас Чаравічус паведаміў агенцтву ELTA, што стан здароўя 71-гадовага Буракявічуса здавальняючы і стабільны. Па словах медыка, вязень не звяртаўся па медыцынскую дапамогу. Часловас Чаравічус таксама назваў «спекуляцыяй» заяву аб тым, што Буракявічусу патрэбная аперацыя на сэрцы. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 544 Нумар падпісаны ў друк 11/05/99 (15:00) Наклад — 17.080